# КРЫВІНКА

ЛІПЕНЬ
№11 (237)
2019 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ДЛЯ КАГО РОБІЦЦА САЙТ РАЙВЫКАНКАМУ?

**Сайт райвыканкаму цягам апошняга часу не папаўняецца навінамі. Мала таго, што абсалютная большыня старонак сайта не запоўнена па-беларуску, апошняй беларускамоўнай навіной 17-га ліпеня на сайце стаіць тая, што ў Бешанковічах ... адсьвяткавалі Дзень Перамогі 9-га мая.**

І што ж адбылося пасьля гэтага сьвяткаваньня? У мяне ёсьць такая версія, што, мусіць, памёр той адзін чалавек у райвыканкаме, хто яшчэ неяк валодаў беларускай мовай і падтрымліваў жыцьцё беларускамоўнай старонкі.

Гэта сімвалічна, але апошняй рускамоўнай навіной на райвыканкамаўскім сайце сёньня, 17-га ліпеня, стаіць тая, што 4-га ліпеня ў Бешанковічах урачыста адзначылі 75-годдзе вызваленьня Беларусі. (!!!) Мусіць, пасьля гэтага сьвяткаваньня сканаў той небарака, хто вёў сайт па-расейску.

А калі разглядаць справу сур'ёзна, то атрымаецца, што нас, жыхароў раёна, які сёньня, 17-га ліпеня, сьвяткуе 95-ю гадавіну свайго ўтварэньня, нават некаму павіншаваць з боку раённага кіраўніцтва са старонак свайго сайту. Ці магчыма такое ў краіне, дзе сваіх грамадзян паважаюць і лічаць за людзей?

Няўжо ў нас у раёне няма праблемаў, якія трэба тэрмінова вырашаць, і якія з дапамогай грамадскасьці і СМІ (а сайт райвыканкама, несумненна мусіць з'яўляцца адным з такіх рупараў) могуць быць вырашаныя?

Скажам, тая ж праблема баршчэўніка. Сёньня практычна каля кожнай вёскі ў Бешанковіцкім раёне ёсць сціплыя куточкі, дзе буяе гэтае небяспечнае пустазельле. Ні ў сельсаветах, ні ў райвыканкаме ніхто з ім аніяк не змагаецца. Хіба што з дапамогай адпіскі ў вышэйстаячыя органы. Маўляў, у нас сітуацыя пад кантролем. Як бы ня так! А сёньня яшчэ ня позна правесьці акцыі па знішчэнню ягоных суквецьцяў. Узняць БРСМ і «Белую Русь», ваенкамат і пенсіянераў...

Цішыня...

А праблема алкагалізму? Раён губляе кожныя два гады 500 чалавек! І добрая частка з іх сыходзіць у лепшы сьвет з-за алкаголю.

А праблема кінутых агародаў, што зараслі пустазеллем па самыя дарогі?

А праблема шаленых жывёл, па якім наш раён лідзіруе ў вобласьці? У нас у Старых Ранчыцах лісіцы прыходзяць на падворкі ўжо і ўдзень.

А праблема малых і вялікіх злачынстваў, якія і раскрываюцца хутчэй пры галоснасьці і здзьдзяйсьняюцца меньш?

А прабема недагледжаных неграйдараваных дарог, якая хранічна абвастраецца ўвесну і ўвосень?

А тое, што Бешанковічы ў дажджлівае надвор'е патанаюць у лужынах, і нікому да гэтага няма аніякой справы? (Летась я папрасіў ліквідаваць дзьве лужыны на праезднай частцы дарогі ў Бешанковічах. І сёньня яны стаяць на месцы.)

А дзясяткі падобных праблемаў, якія балючыя для жыхароў Прыдзьвіньня і якія мусяць тэрмінова вырашацца?

Мусіць, няма пра што пісаць на гэтым сайце, бо няма там аніякой працы. Той самаадданай, крапатлівай штодзённай працы, накіраванай на павышэньне дабрабыту кожнага чалавека і ўсяго нашага народа.

А народ?.. Народ сам змагаецца не толькі са сваімі праблемам, а яшчэ і з сваім кіраўніцтвам.

І вымірае, вымірае, вымірае...

**Г.Станкевіч.**

*P.S. Пасьля таго, як гэты артыкул з'явіўся на сайце beshankovichy.by, сайт бешанковіцкага райвыканкаму пачаў рэгулярна абнаўляцца.*

***Партал твайго горада: http://beshankovichy.by***

## *БЕЛАРУСЫ*

*Нас няма анідзе.*
*Нас забрала сутоньне вякоў.*
*Мы ў змаганьні з планідай*
*разьбіліся, зьніклі, палеглі.*
*Ад праклятага рабства,*
*ад арміі бальшавікоў*
*мы сышлі прэч зь зямлі,*
*мы за хмарамі ў неба палезьлі.*

*Як вада з пацалункамі сонца*
*на крылах тугіх*
*узьлятае ў нябёсы,*
*становіцца там аблачынай,*
*так і мы з сваіх месцаў абжытых,*
*з куткоў дарагіх,*
*у паднеб'е ўзьняліся,*
*бо жыць на зямлі немагчыма.*

*Не ўзгадае пра дом свой*
*бяздомная хмарка ўгары,*
*ёй бракуе з народзінаў*
*хаты і роднай калыскі.*
*Мы ж не нейкія хмары,*
*мы церпім усё да пары,*
*каб аднойчы праліцца*
*дажджом ачышчальным, вялікім.*

*І тады – сьцеражыся,*
*хто нас караваліць з нажом!*
*І – бывай, цішыня,*
*пра якую бязвольныя мараць.*
*Мы ня зьніклі нідзе,*
*мы ўваскрэсьнем*
*і прыйдзем дажджом,*
*у сасьмяглую ціш*
*навальніцай вяртаюцца хмары.*

***Г.Станкевіч***

КУЛЬТУРА

## БЕШАНКОВІЧЫ І КАРАТКЕВІЧ

**25-га ліпеня адзначаліся 35-я ўгодкі сьмерці вялікага беларускага пісьменьніка Уладзіміра Караткевіча. Нарадзіўся пісьменьнік у Воршы, шмат сваіх твораў напісаў у дзядзькавай хаце ў Рагачове, апошнія гады жыцьця жыў у Мінску. Але быў ён і ў Бешанковічах, а менавіта ў вёсцы Асавец Бешанковіцкага раёна.**

Прынамсі, ёсьць адзін фотаздымак, які зроблены ў вёсцы Асавец, дзе Уладзімір Караткевіч наведваў свайго сябра Міхася Чарняўскага падчас яго археалагічных даследаваньняў тарфянікавага паселішча Асавец 2.

Сын знакамітага археолага, Максім Чарняўскі распавядае: «Скануючы бацькавыя фотаархівы, я зрабіў для сябе шыкоўнае адкрыцьцё, што сярод славутых асобаў, якія наведвалі Міхася Чарняўскага пад час яго археалагічных даследаваньняў тарфянікавага паселішча Асавец 2, быў і Уладзімір Караткевіч, яго сябра. Гэта быў далёка не адзіны выпадак іх сумесных археалагічных вандровак, па выніках якіх у галоўнага героя „Чорнага замку Альшанскага" з'явілася колькі рысаў і біяграфічных сітуацый, узятых ад Міхася Чарняўскага, а сам слынны даследчык таксама стаўся правобразам аднаго з герояў гэтага твору.»

Ёсць і дакументальны доказ гэтай гісторыі — фотаздымак.

Зроблены ён раніцай. На ім славуты пісьменьнік стаіць з нязьменнай цыгарэтай у пантофлях на босую нагу. За ягонай сьпінай, здаецца, лазьня. Да ейнай сьцяны прыладжаны брызентавы полаг, які атуляе магчымае месца працы кіраўніка археалагічнай экспедыцыі Міхася Чарняўскага. Злева бачная сама вёска Асавец. Там паміж дамамі праходзіць вясковая вуліца. А пад вокнамі хаты стаіць жанчына.

Параўноўваючы гэты фотаздымак з іншымі, якія ёсьць у поўным зборы твораў Караткевіча, можна меркаваць, што ён зроблены паміж 1975 — 1980 гадамі, магчыма ў 1978-м годзе. (У 1979-м было напісана «Дзікае паляванне караля Стаха»).

**Г.Станкевіч**

ЭКАНОМІКА

## РОЗНЫЯ ПАДЫХОДЫ

**Некалькі гадоў таму гендырэктар ТАА «Альянспласт», член Савета па развіцці прадпрымальніцтва, Мікалай Сілінаў падбіраў памяшканне для філіяла. Звяртаўся ў Гарадок, дзе сам нагледзеў невыкарыстоўваемы будынак, у Бешанковічы, але нідзе яму - заўважым, буйному і вядомаму бізнэсоўцу - не пайшлі насустрач. У выніку прадпрыемства з'явілася ў Шуміліне, працу атрымалі 40 жыхароў райцэнтра.**

У Глыбоцкім раёне іншыя падыходы да працы з нерухомасцю. Тут каэфіцыент выкарыстання дзяржмаёмасці - практычна 93%, няма запазычанасці ў бюджэт па арандаваным памяшканням. У мінулым годзе тут ўцягнулі ў абарот 11 аб'ектаў. Шэсць аб'ектаў прадалі за адну базавую, тры перадалі інвестару бязвыплатна.

На месцы ваеннага гарадка ў Плісе створаны санаторый, замест закінутага цэха ў райцэнтры адкрыта крама будматэрыялаў, у іншым памяшканні - ветклініка, у трэцім - аптэка, у чацвёртым - пільня.

Гэты вынік з'явіўся дзякуючы актыўнай рабоце дэпутатаў райсавета, якія рэальна займаюцца уцягваннем невыкарыстоўваемых аб'ектаў у абарот і смела ідуць насустрач прыватнай ініцыятыве.

У Глыбоцкім раёне прывыклі не наракаць на праблемы, а іх вырашаць. Напрыклад, тут ужо прыдумалі, як выкарыстоўваць былыя сельскія школы і садкі. У вобласці на продаж выстаўлена 109 такіх аб'ектаў, яны ёсць у кожным раёне. Попыту на іх няма нават за адну базавую, таму што толькі афармленне папер выліваецца ў дзясяткі тысяч рублёў.

Старшыня Глыбоцкага раённага Савета дэпутатаў Галіна Унуковіч бачыць выйсце: «Можна было б фармаваць комплексны пункт абслугоўвання. У нас ёсць такія жадаючыя - прыехаць у тую ж школу і ўзяць у ёй памяшканне пад краму, рамонт адзення, цырульню».

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах СБ**

АЛКАГОЛЮ – НЕ!

# ШЭСЬЦЬ ПРАПАНОВАЎ

**Беларусь знаходзіцца на 27-м месцы сярод найбольш пітушчых краінаў сьвету, адзначае Усясьветная арганізацыя здароўя (World Health Organization, WHO). Паводле статыстыкі МУС, 79% бытавых злачынстваў адбываюцца ў стане алькагольнага ап'яненьня.**

Але беларусы могуць піць яшчэ менш. Каардынатар праграм грамадзкага здароўя краінавага офісу WHO у Беларусі Валянцін Русовіч 11 ліпеня прапанаваў захады для зьніжэньня ўжываньня алькаголю ў Беларусі.

**1. Гарэлка мусіць каштаваць дорага**

Русовіч прапануе зьмяніць акцызную палітыку. Найлепшы прыклад — Швэцыя. Акцызы на гарэлку тут у 10 разоў вышэйшыя, чым на віно, і ў 20 разоў, чым на піва. Гэта добра ўплывае на структуру ўжываньня напояў. Гарэлка ў алькагольным «меню» швэдаў складае толькі 14%. У беларусаў — аж 49%. І яшчэ: у сьвеце амаль няма краінаў, як Беларусь, дзе бутэлька сухога віна каштуе даражэй за пляшку гарэлкі.

**2. Жорстка караць тых, хто прадае алькаголь непаўналетнім**

Напрыклад, у Расеі з 2013 году ўведзена трохузроўневае пакараньне за такое парушэньне. Караюць прадаўца (штраф у эквіваленце да 800 даляраў), дырэктара крамы (да 3000 даляраў), уласьніка крамы (да 8000 даляраў). Пры паўторным падобным парушэньні ўласьніку могуць прыпыніць гандлёвую ліцэнзію.

У Беларусі яшчэ не было ніводнага прэцэдэнту прыпыненьня ліцэнзіі. Яго і не магло быць наагул, бо беларускае заканадаўства такога пакараньня не прадугледжвае. У лепшым выпадку караюць прадаўца і дырэктара. Між тым цягам аднаго году ў Беларусі фіксуецца больш за 20 тысяч выпадкаў продажу сьпіртовых напояў непаўналетнім.

**3. Перавесьці моладзь на двухузроўневы продаж алькаголю**

У краінах Скандынавіі маладым людзям ва ўзросьце ад 18 да 20 гадоў у крамах прададуць толькі слабаалькагольныя напоі. Гарэлку, каньяк ды іншыя моцныя напоі прадаюць толькі тым, хто ўжо дасягнуў 20 гадоў. У барах такое абмежаваньне ня дзейнічае, але там бармэн нясе асабістую адказнасьць за сваіх кліентаў. У Беларусі такой сыстэмы не існуе.

**4. Не прадаваць алькаголь уначы**

Досьвед Літвы, дзе такое правіла дзейнічае зь мінулага году, паказаў, што гэта вельмі эфэктыўны мэтад. У Беларусі начны продаж сьпіртовых напояў па-ранейшаму існуе.

У 2018-м было абвешчана, што з 1 кастрычніка алькаголь уначы ня будуць прадаваць у сталічных крамах. Але ўжо 2 кастрычніка гэтую забарону асабіста даручыў адмяніць Аляксандар Лукашэнка.

**5. Скараціць колькасьць месцаў, дзе прадаюць алькаголь**

У Швэцыі адзін такі пункт прыпадае на 5000 насельніцтва. У Беларусі — на 500-600 чалавек.

**6. Зьменшыць ёмістасьць піўных бутэлек**

На Захадзе амаль усё піва прадаецца ў бутэльках ад 330 да 500 мілілітраў. У Беларусі ж папулярныя ўпакоўкі па 1,5–2 літра. А піва такі прадукт, што пачатую бутэльку звычайна дапіваюць да дна.

**Уладзімер Глод**
**Свабода**

ЗДАРЭННІ

# ЗАТРЫМАЛІ ЮНАКА З БЕШАНКОВІЧАЎ

**У Наваполацку затрымалі кампанію, якую падазраюць у зьбіцьці вартаўніка летняй кавярні, інфармуе УУС Віцебскага аблвыканкама.**

Інцыдэнт адбыўся ўначы 26-га ліпеня. У Наваполацкі ГАУС патэлефанаваў 70-гадовы вартаўнік мясцовай летняй кавярні. Ён распавёў, што каля 2:30 некалькі маладых людзей зьбілі яго і выкралі з кафэ алкагольных напоі і прадукты харчавання.

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў устаноўлена, што напярэдадні таго, што здарылася па просьбе непаўналетніх дарослыя купілі ў начным магазіне спіртное. Пасля сумеснага распівання кампанія праходзіла міма размешчанай непадалёк летняй кавярні. Тут у сабутэльнікаў і ўзнік канфлікт з вартаўніком.

Маладыя людзі збілі пажылога мужчыну, частку тавару забралі, а самі схаваліся. У выніку комплекснай адпрацоўкі міліцыянты ўстанавілі падазраваных у здзяйсненні злачынства.

Гэта - непрацуючы мясцовы жыхар 1992 года нараджэння, 15-гадовы новапалачанін і 17-гадовы жыхар Бешанковіцкага раёна. Усе яны затрыманыя. Дарэчы, фігуранты справы і раней траплялі ў поле зроку міліцыі за розныя правапарушэнні. ГОСК узбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 207 Крымінальнага кодэкса.

**Ганна Навумава**
**СБ**

# СКРАЛІ БЫКА

**Пра гэта паведаміў намеснік начальніка 2-га ўпраўлення галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС Андрэй Мікуліч у інтэрв'ю «Сельскай газеце».**

"Не так даўно ў Бешанковіцкім раёне быў выкрадзены дарослы бык. Як дзялкі транспартавалі жывёлу? Спярша забілі, а затым прывязалі тушу да фаркопа аўтамабіля і кіламетраў пяць цягнулі волакам па рэспубліканскай трасе. Вылічыць іх не склала працы."

На жаль іншых падрабязнасцей злачынства расшукаць не ўдалося.

**А. Тутэйшы**

ПАМЯЦІ СЯБРА

# МІКАЛАЙ ДЗЬМІТРЫЕВІЧ БУЯВЕЦ

**Чым далей жыву, тым часьцей адыходзяць сябры. Яшчэ нядаўна маладыя, энергічныя і вясёлыя, яны пачалі чарадою сыходзяць у нябыт.**

Вось ужо 40 дзён, як з намі няма Мікалая Дзьмітрыевіча Буяўца.

Мусіць, цяжка адшукаць у Бешанковіцкім раёне чалавека сталых гадоў, які б меў у роце зубы, не знаёмыя з залатымі рукамі Мікалая Дзьмітрыевіча. І хаця ён не працуе ўжо некалькі гадоў, яшчэ і сёньня візіт да стаматолага выклікае ў мяне з памяці ягоную мажную постаць, ціхі, упэўнены голас, ветлівы зварот. Бо цягам трох дзесяцігоддзяў іншыя дактары лекавалі мяне крайне рэдка. Не ведаю як вам, а мне візіты да стаматолага не здаваліся такімі ўжо жахлівымі. А часам не хацелася нават сыходзіць са стаматалагічнага крэсла, настолькі прафесійна і па-чалавечаму рабіў усё гэты доктар.

У тым, што сёньня ў мой век у маім роце функцыянуюць усе 32 зубы, толькі ягоная заслуга. Праўда, я заўсёды знаходзіў час, каб разы два на год наведаць стаматалагічны кабінет.

Я бачу яго і сёньня як наяве. На сьцяне кабінета справа ад увахода (крыху ніжэй партрэта Лукашэнкі, які вісеў у яго як у загадчыка стаматалагічнага аддзяленьня, коса пазіраючы ўбок, што служыла абектам маіх пастаянных кпінаў) вісяць дзіцячыя малюнкі — падзяка любімаму доктару. Ён імі вельмі даражыў. Хаця былі ў яго і іншыя падарункі. Неяк, калі мы размаўлялі пра хабар («взяткі») дактароў, Буявец мне заявіў: «Ведаеш, а я таксама бяру хабар.» На маё маўклівае запытаньне ён патлумачыў: «Вось прыходзіць да мяне бабулька з зубным болем, я ёй зраблю ўсё як трэба, а яна дастае кавалак сала і бутэльку. Я ёй кажу, што не вазьму гэта, а яна ў адказ: „Што, дрэнна мне зубы залечыў?" І як мне дзейнічаць далей? Пакрыўдзіць чалавека? Думаеш, мне тое сала ці бутэлька патрэбныя?»

Мне падаецца, што галоўная якасьць гэтага доктара, акрамя высокай прафесійнасьці, была ветлівасьць, падкрэсленая карэктнасьць у зносінах з людзьмі, і абсалютная ўраўнаважанасьць. Я вучыўся ў яго, як мне, чалавеку запальчываму і эмацыйнаму, трэба сябе паводзіць.

Былі ў нас і сьмешныя гісторыі, памяць пра якія сагравае і сёньня. У маладосьці мы мелі больш цесныя кантакты, часьцей сустракаліся. Аднойчы пасьля майго візіта да Буяўца мая шчака ператварылася ў падушку, так што нават заплыло вока. Я не паехаў на працу і цэлы дзень адваляўся ў ложку, не вельмі добрымі словамі ўспамінаючы доктара. Адвячоркам, гадзіне а 18-ай, да мяне завітаў Мікалай. Глянуў на мой твар, выслухаў мае прэтэнзіі да яго і спакойна спытаў: «А ці маеш ты гарэлку?» «Мусіць, ёсьць у шафцы», — адказаў я, думаючы, што ён просіць для сябе. Ён наліў амаль поўную шклянку бацькавай самагонкі і паднёс мне. «Пі!» «Ты што, здурнеў?!» — ашаломлена ўзвінціўся я. «Чалавек хварэе, а ты ...» «Пі, табе доктар кажа!» Пасля прыёма «лекаў» была другая каманда: «Зьбірайся!» Мы паехалі на прыроду, дзе гулялі ў бадмінтон, смажылі шашлыкі, сьпявалі песні…

Дзьмітрыевіч любіў, калі я сьпяваў свае песьні. І мне падабалася прысутнічаць на вечарынах, на якія ён мяне запрашаў. Бо яны праходзілі цывілізавана, прыстойна, ладам. Я не памятаю аніводнага выпадку, каб нехта на іх перапіў і скандаліў.

Мікола лёгка пераходзіў у зносінах на беларускую мову, якая гучала з ягоных вуснаў сакавіта і натуральна, і мы гадзінамі размаўлялі пра рознае. Дзьмітрыевіч быў вельмі цікавым суразмоўцам. Часам у ягоных зваротах да мяне гучала ласкавае бацькоўскае «Жорачка», як мяне ў Бешанковічах не называў больш ніхто, і гэта ў ягоным вымаўленьні гучала цалкам натуральна. Я не крыўдзіўся на тое. Слухаючы ягоную спакойную, нетаропкую размову, вельмі падобную на разважаньні пажылога мудрага чалавека. Я і сапраўды адчуваў сябе побач зь ім малым.

Буявец быў вельмі адукаваны доктар, мог даступна навукова абгрунтаваць тваю хваробу і даць дзельныя парады па лячэньню любога захворваньня. Усё жыцьцё ён працаваў з кнігамі. У яго было шмат як медыцынскай, так і іншай літаратуры. Ён карыстаўся і маімі гістарычнымі энцыклапедыямі, бо пісаў кандыдацкую аб разьвіцьці стаматалогіі ў Беларусі 19-га стагодзьдзя, што ў тыя часы ўваходзіла ў склад царскай Расеі.

Былі ў нас і незабыўныя вандроўкі ў Бабруйск да нашага агульнага сябра. Потым мы ездзілі яшчэ на ягонае вясельле на Берасьцейшчыну. Узгадваю, як я з захапленьнем назіраў, як Дзьмітрыевіч з ягонай мажной фігурай элегантна таньчыць ламбаду.

Ягоны век мусіў бы быць даўжэйшым. Але ж не чалавек выбірае хваробу, а якраз наадварот. Дзьмітрыевіч мужна змагаўся з ёй свае апошнія нялёгкія гады. Яшчэ сёлета ў сакавіку пры нашай апошняй сустрэчы, якая сімвалічна адбылася якраз у стаматалагічным аддзяленьні, куды ён завітаў, да мяне падышоў прыгожы не стары яшчэ мужчына, які ўсьміхаўся на ўвесь свой шчарбаты рот. Калі б я не ведаў пра ягоную бяду, аніколі б і не падумаў, што гэты чалавек цяжка хворы.

Тым нечаканей была вестка пра ягоную сьмерць.

Добрая памяць пра яго будзежыцьдоўга,і,думаецца, не толькі ў мяне. Упэўнены, што ў раёне будуць доўга ўспамінаць гэтага доктара добрым словам, а пасля таго як памруць апошнія сьведкі, хто яго помніць, пра яго будуць хадзіць легенды.

Аднойчы, седзячы ў ягоным стаматалагічным крэсьле, я прачытаў яму жартаўлівы вершык, які нарадзіўся экспромтам:

*«Добры доктар Буявец,*
*не было б цябе ў краіне*
*быў бы ўсім зубам капец,*
*ну, не ўсім, дык палавіне...»*

Добры наш доктар, дзякуй табе за ўсё...

**Г.Станкевіч**

ПАЛІТАЛОГІЯ

# «ТЫЯ, ХТО ПАДПІСВАЕЦЦА Ў ІНТЭРНЭЦЕ»

**Актуальнасць публічных развагаў адзінага палітыка (АП) на тэму незалежнасці і суверэнітэту расце літаральна на вачах. Калі ў тэксце выступлення на ўрачыстым сходзе 2 ліпеня 2018 года слова «незалежнасць» згадвалася 9 разоў, то праз год — 16!**




Свет відавочна не становіцца больш бяспечным. Але адкуль варта чакаць чарговую пагрозу? Некалькі разоў уважліва перачытваю тэкст. Пагрозы, як вядома, дзеляцца на знешнія і ўнутраныя. Пра знешнія сказана неяк няпэўна. Цытую: *«За чвэрць стагоддзя сваёй незалежнасці ва ўмовах магутнага палітычнага, інфармацыйнага, эканамічнага ціску (памятаеце, гэта зусім нядаўна было) нам удалося абараніць суверэнітэт, захаваць мір і парадак у краіне, — гэта стала нашай з вамі агульнай перамогай у найноўшай гісторыі. Перамогай без вайны, што вельмі важна».*

Не ведаю, як для чытачоў, але асабіста для мяне ў прыведзенай цытаце ключавым стаў дзеяслоў «было». Я як яго пабачыў — так ад сэрца адлягло. Падумаць толькі, чвэрць стагоддзя трымацца адначасова пад уздзеяннем трох прэсаў: палітычнага, інфармацыйнага і эканамічнага! Аднак мы выстаялі! Усе гэтыя жахі з кашмарнай цяперршчыны засталіся ў мінулым. Адразу і не згадаеш, якому яшчэ народу давялося перажыць такое.

Аднак не варта расслабляцца. Перамога над знешнім, так да канца і не апазнаным праціўнікам, не вызваляе нас ад абавязку *«сачыць за тым, што адбываецца ў краіне»*.

Але беларусам пашанцавала. Нездарма ж будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці пачалося з узвядзення ўладнай вертыкалі. З яе вяршыні і атрымалася заўважыць *«некалькі тэмаў, якія бурна абмяркоўваюцца»*. І дзе б вы думалі? Ну, вядома, у інтэрнэце — у нашай вялікай «сметніцы».

Дазволю сабе яшчэ адну цытату: *«І вось я апошнім часам заўважыў некалькі тэмаў, якія бурна абмяркоўваюцца. І яны, канешне ж, тычацца перш за ўсё вас. Не сялян, не працоўных, не лекараў, настаўнікаў, нашай інтэлігенцыі, якія працуюць кожны дзень. Нас — эліты, якая кіруе дзяржавай. Разгарнулася бурная палеміка: як будзем служыць у войску? Чытай — як будзем абараняць сваю зямлю, сваю Айчыну?»*

Мяркую, з першага разу не кожны зможа зразумець сэнс цытаты. Яе аўтар падзяліў беларусаў на тых, *«якія працуюць кожны дзень»*, і *«нас — эліты, якая кіруе дзяржавай»*. Нічога арыгінальнага ў гэтым няма. Шматлікія тэорыі элітаў займаюць далёка не апошняе месца ў гуманітарных навуках.

Але чаму пытанні *«як будзем служыць у войску?»* і *«як будзем абараняць сваю зямлю?»* датычацца, перш за ўсё, «вас», г. зн. «нас — эліты»? Ці азначае гэта, што служыць у войску будуць выключна прадстаўнікі «вас-нас-эліты», ці гаворка ідзе толькі пра тое, як будуць служыць тыя, «якія працуюць кожны дзень»?

Тут ёсць над чым паламаць галаву. Свой жа варыянт адказу я прапаную ў канцы гэтай «Азбукі паліталогіі».

**«Вас-нас-эліта»**

Падчас разграбання «сметніцы» АП зрабіў адкрыццё ў сацыялогіі. Ці зможа яно прэтэндаваць на ролю аналага жамчужнага зерня з байкі Крылова — пакажа час. У цяперашні ж момант даводзіцца канстатаваць, што з адзінага і згуртаванага беларускага грамадства ўпершыню атрымалася вылучыць асобную групу, што супрацьпастаўляе сябе грамадству. Імя гэтай групы — «тыя, хто падпісаўся ў інтэрнэце».

Удзельнікі групы, якая яшчэ не паспела выразна сфарміравацца, ужо адзначыліся некалькімі дзеяннямі. У прыватнасці, патапталі ўздоўж і папярок «беднага Раўкова» (міністра абароны), уся віна якога палягала толькі ў тым, што ён не тое прапанаваў на разгляд парламента.

Важнае тлумачэнне: «тыя, хто падпісаўся ў інтэрнэце», да нас не з Марса прыляцелі і не былі таемна закінутыя з радзімы вынаходнікаў сусветнага павуціння (ЗША). З вяршыні ўладнай вертыкалі ўдалося разгледзець, што касцяк «падпісантаў» складаюць тыя, «хто, перш за ўсё, турбаваўся пра суверэнітэт і незалежнасць». Але адна справа — дбаць з дапамогай падпісвання (ад жадаючых тут не адбіцца), і зусім іншае — выконваць свой патрыятычны абавязак.

*«Суверэнітэт і незалежнасць — гэта самыя дарагія рэчы»*. АП пра гэта не стамляецца паўтараць. Што ж нам прапануюць «тыя, хто падпісваецца»? Іх прапановы зводзяцца да своеасаблівага падзелу працы. Прыводжу яго ў выкладанні АП: *«Адны — рабочыя і сяляне, як звычайна, у каго наогул жа ўлады няма, — яны будуць абараняць нас, мы ім дадзім стрэльбы, і хай там паміраюць, абараняючы нас. А мы, вядома, за мяжой ці яшчэ дзесьці будзем атрымліваць адукацыю і будзем выбіраць, дзе нам жыць і працаваць, але абараняць мы не будзем, ваяваць мы не будзем».*

У прыведзенай цытаце тых, хто хаваецца за займеннікамі «нас», «нам» і «мы», не варта блытаць з «вас-нас-элітамі», нягледзячы на тое, што АП надзяліў усю гэтую кампанію правам раздаваць стрэльбы. Мяркую, з нагоды раздачы стрэльбаў АП пагарачыўся. Тым не менш, ідэю накont падзелу працы ён перадаў правільна…

**Дзвюм волям у адным бярлогу не ўжыцца**

Які ж з неаднаразова апрабаваных у гісторыі варыянтаў прапануе сёння АП? Старажытнагрэчаскі варыянт адпадае адразу. Ён патрабуе дэмакратыі. Айчынны вопыт падліку галасоў такой форме палітычнага ладу наўрад ці б паспрыяў. Да таго ж у Афінах класічнага перыяду (V стагоддзе да нашай эры) большасць службовых асоб і чальцы калегіяльных органаў кіравання выбіраліся паводле лёсавання.

Старажытныя грэкі лічылі, што такім чынам выяўляецца воля багоў. Але так званая «моцная дзяржава» ў Беларусі ёсць механізм рэалізацыі волі аднаго канкрэтнага чалавека. Дзвюм волям, падобна двум мядзведзям у адным бярлогу, не ўжыцца. Любая няпэўнасць, непазбежная пры лёсаванні, разбурыць стабільнасць. Да такой жа жалю вартай сітуацыі прывядуць і выбары, калі іх вынікі не будуць прадказальныя. Таму выбары ў Беларусі — гэта іспыт. Яго здае ўладная вертыкаль камісіі, уладнай вертыкаллю і сфарміраванай.

Пра пагрозу нявызначанасці, якую спараджаюць «тыя, хто падпісваўся ў інтэрнэце», і папярэджваў АП 2 ліпеня на ўрачыстым сходзе да Дня Незалежнасці. Але панікаваць не трэба. І тым, «якія працуюць кожны дзень», і шчаслівчыкам з ліку «вас-нас-эліты» АП даходліва растлумачыў: *«Гэта мая праблема. Я яе буду вырашаць. Я апошнім часам крыху адцягнуўся ад звычайных спраў (ведаеце чаму, уся краіна гэтай падзеяй жыла, я таксама быў недалёка)»…*

* * *

Час падвесці рысу. І ў XXI стагоддзі неабходнасць абараняць дзяржаўную незалежнасць і суверэнітэт ніхто не адмяняў. Але адкуль сёння зыходзяць пагрозы? Ад правільнага адказу на гэтае пытанне залежыць многае, калі не ўсё.

АП, што разважае катэгорыямі мінулага, спрабуе паставіць пад ружжо ўсё мужчынскае насельніцтва краіны. Гэтым жа шляхам імкнуліся ісці бацькі-заснавальнікі СССР. Вынік вядомы. Самая шматлікая армія ў свеце практычна без адзінага стрэлу капітулявала перад масавым жаданнем «чалавека савецкага» спажываць. Крылатым і іншым ракетам не было чаго супрацьпаставіць супермаркетам і Макдональдсам.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

АДЗІНЫ ПАЛІТЫК

# ЧАМУ ЛУКАШЭНКА НЕ СЬВЯТКАВАЎ СВАЁ 25-ГОДЗЬДЗЕ?

**Ці заўважыла палітызаваная публіка дзіўны парадокс: 25-годзьдзе кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі адзначылі толькі недзяржаўныя мэдыі? На афіцыйным узроўні, у дзяржаўных СМІ гэтая дата практычна ніяк ня ўзгадвалася, ня кажучы ўжо пра тое, каб урачыста яе сьвяткаваць.**

Адмова ад сьвяткаваньня юбілею выглядае вельмі дзіўна, асабліва на тле ідэалягічнага міту, які шмат гадоў улады навязваюць грамадзтву і паводле якога сапраўдным пачаткам беларускай гісторыі абвяшчаецца 1994 год. Гэта ідэя закладзеная ў Музэі сучаснай беларускай дзяржаўнасьці. На сайце газэты «Беларусь сегодня» ёсьць рубрыка «25.by Чвэрць стагодзьдзя беларускай дзяржаўнасьці». Сам Лукашэнка шмат разоў апавядаў, як ён ўратаваў Беларусь, якая нібыта гібела на пачатку 1990-х гадоў.

Для падтрыманьня гэтага міту штучна прыніжаюцца іншыя знакавыя падзеі багатай беларускай гісторыі. Улады нават зьмазалі, рэдукавалі, спусьцілі на тармазах маштабнае сьвяткаваньне 100-годзьдзя БССР. Пацiху абясцэньваюцца нацыянальныя героі. Дайшло і да Кастуся Каліноўскага, якога дзяржаўныя мэдыі пачалі называць польскім дзеячом. І ўсё гэта дзеля таго, каб расчысьціць глебу для іншага героя, якому не патрэбныя канкурэнты.

Таму здавалася, што ў ліпені краіну чакае ўсенароднае сьвята. 25 год кіраваньня, чвэрць стагодзьдзя. Наступны юбілей будзе праз пяць гадоў. Ніхто ня ведае, што можа адбыцца за гэты час. Таму цяпер самы раз было сьвяткаваць.

І на пачатку году ўлады распачалі адпаведную палітычную кампанію. Вось у газэце «Беларусь сегодня» зьявілася ўзгаданая вышэй рубрыка, дзе друкаваліся на дзьвюх палосах матэрыялы, прысьвечаныя «слаўным» 25 гадам. Аналягічныя праекты пачалі рэалізоўвацца на тэлеканалах.

Аднак праз пэўны час гэтую кампанію спынілі. І сам юбілей прайшоў практычна не заўважаны дзяржаўнымі мэдыямі. Калі б не незалежныя СМІ, то грамадзтва б увогуле прапусьціла гэтую дату.

Чаму Лукашэнка не захацеў наладзіць сабе яшчэ адно сьвята? На мой погляд, існуюць некалькі прычын такога рашэньня.

Найперш, варта адзначыць, што кіраўнік Беларусі вельмі асьцярожна ставіцца да свайго культу. У яго пакуль хапае здаровага сэнсу не чапляць на сябе ордэны і мэдалі, не будаваць помнікаў, ня ўпісваць сваё імя ў Канстытуцыю, як гэта робяць дыктатары ў некаторых усходніх краінах.

Мяркую, Лукашэнка добра памятае сумны досьвед Леаніда Брэжнева, які любіў чапляць на сябе іканастас з ордэнаў, урачыста сьвяткаваць розныя юбілеі. Ужо зусім нямогламу генсеку, які зь цяжкасьцю мог гаварыць, савецкія мэдыі нястрымна пялі хвалу, называлі яго «выбітным дзяржаўным дзеячам». Кантраст паміж тым, што народ бачыў па ТБ, і прапагандай быў такі вялізны, што людзі пляваліся і расказвалі анэкдоты.

А галоўная прычына ўтым, што няма чым хваліцца. Пяцігадовы плян праваленыя. У большасьці грамадзтва ёсьць вялікае расчараваньне, псыхалягічнае адчуваньне тупіку, безнадзейнасьці, адсутнасьці пэрспэктыў. Давер да ўлады і, у прыватнасьці, да самога Лукашэнкі моцна ўпаў. Мабыць, ён ведае вынікі сацыялягічных дасьледаваньняў, таму ня мае ніякіх ілюзій наконт сваёй папулярнасьці. 11 чэрвеня, выступаючы перад чыноўнікамі, ён заявіў: «І я разумею, і вы разумееце, што ўжо не паміраe народ ад любові да нас». Таму на гэтым тле Лукашэнка разважліва вырашыў, што ня варта лішні раз нагадваць народу пра тое, як доўга ён кіруе краінай, каб не раздражняць людзей.

Думаю, адыгралі пэўную ролю ўкраінскія выбары (прэзыдэнцкія і парлямэнцкія). Беларусы нечакана вельмі моцна ў іх заангажаваліся. Паводле маіх уласных назіраньняў, далёкія звычайна ад палітыкі людзі раптам пачалі азартна заўзець за ўкраінскіх палітыкаў. Украінскія выбары палітызавалі беларусаў. Беларускае грамадзтва ўразіў той энтузіязм, зь якім суседзі выбралі Ўладзіміра Зяленскага

*(працяг на стр. 3)*

АДЗІНЫ ПАЛІТЫК

*(пачатак на стар. №3)*
новым прэзыдэнтам, пракаціўшы старых палітыкаў, у тым ліку дзейнага на той час кіраўніка дзяржавы Пятра Парашэнку. Аказваецца, так можна! Вялікі спадзеў на новых людзей у кіраўніцтве захапіў і беларусаў. Невыпадкова беларускія тэлеканалы старанна пераконваюць, што, маўляў, чым больш дэмакратыі ва Украіне, тым горш украінцы жывуць. Тым ня менш Лукашэнка, мусіць, вырашыў, што на гэтай хвалі нагадваць пра свае нязьменныя 25 гадоў будзе недарэчы.

І апошні чыньнік — адносіны з Расеяй. Тут таксама няма чым хваліцца. Магчыма, надыходзіць самы цяжкі пэрыяд беларуска-расейскіх дачыненьняў. Верагодна, сам Лукашэнка ведае нешта такое, чаго ня ведаем мы. І гэтая праўда вельмі непрыемная. Кіраўнік Беларусі страчвае вобраз адзінага і нязьменнага чалавека, які можа дамовіцца з Крамлём пра расейскія датацыі. Таму цяпер — не да сьвята.

**Валер Карбалевіч**
**https://www.svaboda.org**

РЫНАК ПРАЦЫ

# РЕКОРД ЗА РЕКОРДОМ

**Количество вакансий в республиканской базе бьет рекорды каждый день. Если в начале этой недели их было чуть больше 93 тысяч, то 12 июля их число превысило отметку в 94 тысячи. При этом в начале июня в базе числилось чуть меньше 90 тысяч вакансий, а в начале мая — чуть больше 80 тысяч. Откуда эти вакансии берутся? FINANCE.TUT.BY адресовал вопрос эксперту.**

— Во-первых, наша экономика пусть медленно, но растет. Поэтому неудивительно, что появляются новые вакансии, — говорит Катерина Борнукова, академический директор исследовательского центра BEROC. — Во-вторых, параллельно стареет население, и количество претендентов на эти свободные места уменьшается. А в-третьих, нельзя списывать со счетов то, что набор вакансий в этой базе все равно довольно специфический. В большинстве случаев это низкоквалифицированный труд.

В базе и правда много предложений о работе, которые не требуют каких-то особенных навыков. В пятерке самых востребованных — водители (4,5 тысячи вакансий), продавцы (2,4 тысячи), подсобные рабочие (2,3 тысячи). Хватает предложений для уборщиков (1,8 тысяч), грузчиков (1,1 тысячи), кладовщиков (400). Вдобавок многие из них — на 0,5 ставки или меньше, а больше половины предлагают зарплату до 500 рублей. Так что найти хорошее место через базу вакансий не так уж и просто (хотя бывают исключения).

Число вакансий 12 июля превысило отметку в 94 тысячи

— С другой стороны, это означает, что есть проблема заполнения таких вакансий. Значит, на рынке есть более выгодные предложения, а вакансии с неполной занятостью или низкими зарплатами закрыть достаточно сложно. Это как раз свидетельствует о том, что есть лучшие альтернативы, — комментирует Катерина Борнукова.

Вместе с тем в Беларуси растет не только количество вакансий, но и количество уволенных. Вот уже седьмой месяц подряд работу теряет больше людей, чем находит. Может быть, отсюда и берутся эти свободные места?

— Рост количества уволенных — это скорее какие-то сезонные явления и влияние долгосрочных параметров вроде старения населения и выхода на пенсию большего числа людей. Судя по тому, что вакансии достаточно сильно сконцентрированы в определенных профессиях, они вряд ли связаны с увольнениями, — считает Катерина Борнукова.

При этом отдельную тревогу у специалистов вызывает то, что в пятерке самых востребованных специальностей уже который месяц оказываются врачи (3,4 тысячи вакансий) и медсестры (3,3 тысячи).

— Медицинских профессионалов не хватает в силу того, что их уровень зарплат у нас в стране достаточно низкий. Это достаточно долгосрочный тренд, который прерывался только во время кризиса, когда у людей с медицинскими дипломами не было альтернативных мест для занятости, — говорит Катерина Борнукова. — Безусловно, есть факты отъезда медработников за границу: в Россию, где признаются белорусские дипломы и не требуется никаких дополнительных документов, в ту же Литву, где с радостью ждут наших медицинских специалистов, особенно младших. На самом деле проблема с маленькими зарплатами в медицине проявляется еще на стадии выбора профессии. Молодежь видит зарплату айтишника и зарплату врача и делает достаточно очевидный выбор. Получается, что в итоге в медицинскую профессию идут только те, кто действительно ей предан и хочет спасать жизни людей, а таких не так уж и много.

Власти ранее неоднократно поднимали вопрос трудовой миграции белорусов. К примеру, чтобы удержать уезжающих на заработки медиков, планируют подготовить постановление, по которому можно будет доплачивать отдельным специалистам, работающим в медицине, за специфику труда.

**Анна Рыбчинская**
**FINANCE.TUT.BY**

ЦЭНЫ

# СРАВНЕНИЕ ПО ЧЕКАМ

**Сметана подорожала на 55%. Сравнивать барановичский Intex-press решил не по средним ценам, которые ежемесячно приводит Белстат, а по чекам из местных магазинов. Для чистоты сравнения брали одни и те же товары в одних и тех же магазинах.**

**Пучок зелени подорожал в 2,5 раза**

Больше всего, судя по чекам, за три года подорожали молочные продукты и мясо. К примеру, 200-граммовый пакет сметаны одной и той же марки за это время мало того, что стал на 55% дороже, так и платим мы теперь уже за другой продукт. В июле 2016-го жирность этой сметаны была 28%, а в июле этого года – 25%.

Обычный пучок зелени, который в июле 2016-го можно было купить за 20–30 копеек, подорожал за это время в 2,5 раза! А по той цене, что три года назад продавали самые дорогие помидоры, сегодня продают самый дешевый неликвид.

Зато цена на огурцы мало изменилась: в июле 2016-го за кило просили от 60 копеек до 1 рубля, сейчас – от 60 копеек до 2 рублей.

**Без хлеба с батоном**

После деноминации цены в Беларуси, по информации официальной статистики, выросли в целом примерно на 17%. Но, считая инфляцию по стране, Белстат берет данные по сотням видов товаров. Одни могут дорожать в несколько раз, а другие дешеветь.

| Наименование товара | июль 2016 | июль 2019 | на сколько подорожало,% |
|---|---|---|---|
| Помидоры, 1 кг | 2,2 | 2,79 | 27 |
| Сметана 28%, 200 г | 0,77 | 1,19 | 55 |
| Молоко 2,6%, 1 л | 0,75 | 1,09 | 45 |
| Жевательная резинка | 0,71 | 0,92 | 30 |
| Йогурт детский, 100 г | 0,43 | 0,49 | 14 |
| Хлеб | 0,95 | 1,13 | 19 |
| Курица охлажденная, 1 кг | 3,57 | 4,29 | 20 |
| Кефир 3,7%, 0,5 л | 0,49 | 0,69 | 41 |
| Сахар-песок, 1 кг | 1,57 | 1,54 | -2 |
| Сыр твердый, 210 г | 2,51 | 2,99 | 19 |
| Батон | 0,94 | 1,05 | 12 |
| Фарш куриный, 1 кг | 5,98 | 8,99 | 50 |
| Зубная паста, 100 г | 2,03 | 2,87 | 41 |
| Подгузники детские, 48шт. | 24,49 | 28,69 | 17 |
| Дезодорант мужской, 50 мл | 5,49 | 6,79 | 24 |
| итого | 52,88 | 65,51 | 24 |

*Так изменились цены на некоторые товары в барановичских магазинах*

Или, например, твердый сыр. В 2016 году он продавался в фасовке по 210 граммов, а сейчас – 200 граммов. Казалось бы, каких-то 10 граммов. Но разница в цене на кило почти 75 копеек.

Но далеко не все продукты подорожали. К примеру, цена на сахар-песок, наоборот, снизилась. И даже без скидок он сегодня стоит пусть немного, но дешевле, чем три года назад.

Подросшие за три года цены в магазинах не идут ни в какое сравнение с ростом цен на овощи и фрукты на рынках.

Потребитель же, как правило, покупает намного меньше товаров. Соответственно, его персональная инфляция может отличаться от официальной.

Если в июле 2016 года на 10 рублей мы могли купить курицу, пакет молока и хлеб с батоном, то в июле этого года этой суммы хватит только на курицу и молоко.

**https://gazetaby.com**

ПАЕЗДКА Ў РЭГІЁН

# СТРАННОЕ ОБЩЕНИЕ В ВЕТКЕ

**Жители Ветки — Лукашенко: «А на что мы можем жаловаться, если все хорошо?»**

Странное общение произошло в Ветковском районе между местными жителями и главой Беларуси. Как сообщает БЕЛТА, возле городского бассейна райцентра Александра Лукашенко ожидали местные жители. Если верить агентству, в толпе раздавались голоса: «Мы вас любим, ценим, уважаем, Александр Григорьевич! Приезжайте к нам почаще!»

Журналисты потом поинтересовались у мужчины, который принимал активное участие в разговоре: «Почему не спрашивали о проблемах, не жаловались?»

– А на что мы можем жаловаться, если все хорошо? Пенсия, зарплата вовремя, в магазинах все есть. Люди на дачах работают, – пояснил Александр, пенсионер, коренной житель Ветки. – Кто хочет работать, тот работает, получает деньги и наслаждается жизнью.

Привело БЕЛТА и слова работницы местного лесхоза Тамара Убоженко: «У нас Ветка, казалось бы, - такой маленький городок, а как замечательно. Только развивайся и живи».

Отметим, что в декабре 2018 года средняя зарплата в Ветковском районе была одной из самых низких в стране – 713 рублей.

Осенью прошлого года Виктор Евмененко, магистр экономических наук, секретарь Беларуского евроатлантического клуба писал на Belarus Security Blog: демографическая ситуация в Ветковском районе весьма печальная, район является глубоко дотационным, частично люди ездят на заработки в Россию, частично в Гомель – в 15 км от райцентра.

**https://gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.07.2019 у 16.15**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.